Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

# Наперад!

Беларуская радыкальная тыднёвая часопісь.

Цана асобнага нумару 20 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская 8, кв. 3.

Прыймо інтэрэсантаў ад 9 да 2 гадз. штодня, апрача сьвятаў і нядзель.

Падпіска з дастаўкай да хаты: на 1 год—7 зл., за паўгоду—3 зл. 50 гр., за 3 мес.—2 зл., за 1мес.—75 гр.

Год 2. Вільня, 11 верасьня 1930 г. №. 24

## Ад рэдакцыі і адміністрацыі газ. „Наперад".

Усе падпішчыкі нашае газэты, якія вышлюць да 1 кастрычніка гэтага году падпісную плату поўнасьцю за верасень, кастрычнік, лістапад і сьнежань—усяго 2 зл. 75 гр., — атрымаюць гаспадарча-коопэратыўную месячную часопісь „САХА" са зьніжкаю на 50%. Гэткім чынам, кожны наш падпішчык, высылаўшы ў рэдакцыю „Сахі" 1 злоты і аплаціўшы газэту „Наперад" да канца гэтага году — будзе атрымліваць „Саху" да 1 студзеня 1931 г.— за 1 злоты. — Падпіску за „Наперад" у суме 2 зл. 75 гр. і за „Саху"—1 зл. можна высылаць на адным пераказе, зазначыўшы толькі, якая сума ідзець на Саху, а якая на газэту.

## Чаму нам патрэбны Цэнтральны Саюз.

У апошнім № нашай газэты мы ўжо падалі вестку аб тым, што беларускаму грамадзянству ўдалося дабіцца рэгістрацыі Цэнтральнага Саюзу.

З гэтага часу павінна пачацца фактычна новая эра ў жыцьці нашай беларускай грамадзкасьці: праца ўсіх нашых арганізацый і ўстаноў будзе кіравацца адзіным цэнтрам, які ня толькі будзе ўпарадкоўваць жыцьцё гэтых установ, але будзе дбаць і аб тым, каб беларуская культура пашыралася сярод беларусоў, каб палепшаліся эканамічныя варункі жыцьця на нашых землях, каб расьлі беларускія арганізацыі, маючыя культурна-прасьветныя і гаспадарчыя мэты.

Словам, узноў створаны Беларускі Цэнтр мае вялікія, як на нашыя варункі, заданьні і мае вялікія магчымасьці — толькі пры тэй умове, што беларускае грамадзянства зразумее яго мэты і прыме самы актыўны ўдзел у тых працах, ініцыятарам якіх станецца Цэнтральны Саюз.

Далучыўшыся да гэтага Саюзу, кожная беларуская арганізацыя і ўстанова гэтым самым узмоцніць сваю ўласную сілу, бо перастане быць тым слабенькім дубцом у расьцярушаным веніку, у якім стане яна знаходзілася да апошніх часоў.

Усе арганізацыі і інстытуцыі, увайшоўшы ў Цэнтральны Саюз, павінны знайсьці нейкую супольную мову, павінны пакінуць „у дужках" усё тое, што элемэнтарна патрэбна для ўсяго беларускага народу і яго нац.-культурнага адраджэньня і выкінуць „за дужкі" розныя асабістыя амбіцыі, палітычныя супярэчнасьці, калі такія знойдуцца, і агульнымі высілкамі заняцца тою творчаю, пазытыўнаю працаю, якая ня можа выклікаць ніякіх непаразуменьняў прынцыповага зьместу і патрэба ў якой для кожнага зьяўляецца зразумелай.

Няма мовы аб тым, што гэта ўсё датычыць толькі тых арганізацыяў, якія „ўспрыймуць" пазытыўную творчую працу на карысьць беларускага народу.

Тыя-ж арганізацыі, якія-б імкнуліся толькі да падрыўной працы і дэмагогіі, ня могуць разьлічаць на тое, што яны знойдуць тут сабе выгадны куток і прыкрыўку.

Гэта трэба сказаць проста й шчыра, каб ня было потым непаразуменьняў...

У Цэнтральным Саюзе павінны гуртавацца такія сілы, якія імкнуцца стварыць нешта карыснае для беларускіх масаў, нават пры сучасных цяжкіх умовах жыцьця.

Куды лягчэй пры гэтых умовах весьці разбураючую працу—тут усё робіцца па шаблёну—але што будзе далей, і якую карысьць атрымае беларускі народ ад гэтакай „працы" ні ад каго на гэтае пытаньне правдзіловага адказу мы не атрымаем...

Трэба спадзявацца, што ўноў створаны Цэнтр, які павінен быць Цэнтрам усяго беларускага культурна-нацыянальнага жыцьця, пераможа ўсе тыя труднасьці, якія будуць стаяць на яго дарозе й прычыніцца да палепшаньня долі беларускага народу.

## Прадвыбарная хроніка.

Усе палітычныя партыі ўсілена рыхтуюцца да набліжаючыхся выбараў.

У мэтах пашырэньня сваіх уплываў Польская Сацыялістычная Партыя склікаець напр. на 14 верасьня ў Варшаву жыхароў амаль са ўсяго Варшаўскага ваяводзтва на маніфэстацыю, якая павінна, па думцы кіраўнікоў гэтай партыі, паказаць яе сілу. Адначасна з гэтым, на той жа дзень склікаюцца пепээсаўскія сходы ў Лодзі, Чэнстахове, Беластоку, Катавіцах і ў шмат іншых гарадох.

Што будзе з гэтых маніфэстацыяў — пакажа бліжэйшая будучыня.

З другога боку і Ўрадовы Бэспартыйны Блёк праяўляець за апошнія дні вельмі інтэнсыўную дзеяльнасьць: адбываюцца нарады, канфэрэнцыі і, як падаюць газэты, у хуткім часе маець быць выпушчана адозва, якая будзе ўступам да прадвыбарнай кампаніі.

—

Польская Хадэцыя, якая пэўны час вагалася і ня знала, якую пазыцыю заняць ёй у выбарах—ці прыступіць да „Цэнтралеву", ці ўвайсьці ў нейкую іншую камбінацыю—ў самы апошні час здецыдавалася прыступіць да „Цэнтралеву".

Гэткім чынам польскія сацыялісты прыдбалі сабе новых саюзьнікаў у пастаці польскіх клерыкалаў.

—

Як падаець „Kurjer Wileński" — жыды ў сучасных выбарах маюць ісьці асобна, ня блёкуючуся з іншымі меншасьцямі.

Украінцы таксама бышцам хочуць ісьці асобна ад іншых, утварыўшы нацыянальны ўкраінскі блёк, куды бы ўвайшлі ўсе ўкраінскія партыі.

На кангрэсе меншасьцяў, які адбываецца ў Жэневе, немцы зьвярнуліся з прапазыцыяю да ўкраінцаў, беларусоў і ліцьвіноў аб утварэньні супольнай выбарнай лісты да Сойму і Сэнату, у якую бы ўвайшлі немцы, украінцы, беларусы і ліцьвіны без удзелу жыдоў.

—

3-га верасьня г. г. гэнэральны выбарны камісар, судзьдзя Найвышэйшага Суда, п. Гіжыцкі, распачаў сваю працу.

—

Пры Міністэрстве Унутр. Спраў арганізаваны спэцыяльны выбарны рэфэрат, на чале якога стаў начальнік палітычна-грамадзкага аддзелу п. Мысьлінскі. Адначасна арганізуюцца адпаведныя рэфэраты і пры ўсіх ваяводзтвах і паветах.

—

Міністэрства Унутр. Спраў паведаміла ваяводаў, каб падалі кандыдатаў на выбарных камісараў у пасобных акругох.

Назначэньне такіх камісараў мае наступіць у найбліжэйшы час.

—

**Выметкі з г. зв. выбарнага календара — да 20 верасьня г. г.**

Увага: паказаныя ніжэй даты азначаюць апошнія тэрміны для пасобных выбарных чыннасьцяў. Усе тэрміны перад днём галасаваньня ў Сэнат адносяцца да выбараў у Сойм і Сэнат.

7 верасьня 1930 г. 8 найвялікшых пасольскіх клюбаў прадстаўляюць Гэнэральнаму Выбарнаму Камісару 8 сяброў Дзяржаўнай Выбарнай Камісіі і столькі-ж іх заступнікаў.

9 верасьня. Гэнэральны Выбарны Камісар на прапанову прэзэса адпаведнага апэляцыйнага суда назначаець старшыняў акружных выбарных камісіяў. Ваявода (Камісар Ураду) назначаець па аднаму сябру акружных выбарных камісіяў.

Адміністрацыйная ўлада і інстанцыі агалошваюць ва ўсіх гмінах аб іх падзеле на абводы галасаваньня, аб выбарным памяшчэньні і ўрадовым памяшчэньні абвадовых выбарных камісіяў; адначасна ўлада паведамляець аб вышэйшым прэзэса акружной выбарнай камісіі і Галоўны Статыстычны Урад.

11 верасьня. Гэнэральны Выбарны Камісар агалошваець у ваяводзкай урадовай газэце назначэньне старшыняў акружных выбарных камісіяў і іх заступнікаў.

Ваявода (Камісар Ураду) агалошваець назначэньне сябру акружных выбарных камітэтаў, назначаных ім.

Мястовыя рады і соймікі, ці-то сходы ўпаўнаважненых ад гмінаў выбіраюць сяброў акружной выбарнай камісіі, аб чым паведамляецца акружная выбарная камісія.

13 верасьня. Старшыня акружной выбарнай камісіі агалошваець склад камісіі ў ваяводскай урадовай газэце.

Акружная выбарная камісія агалошваець ува ўсіх гмінах акругі аб дні выбараў, гадзіне галасаваньня, колькасьці паслоў, якія маюць быць выбраны з акругі, мейсцы, часе, спасабе і апошнім тэрміне згалошваньня кандыдатаў і заяваў пры далучэньні акружной лісты да лісты дзяржаўнай, а такжа пэрсанальны склад і ўрадовае памяшчэньне акружной выбарнай камісіі.

14 верасьня. Гмінная рада (ці-то сход солтысаў), або Урадовы Камісар, паветовы аддзел) назначаець трох сяброў абвадовай выбарнай камісіі і столькі-ж іх заступнікаў.

19 верасьня. Начальнікі гмінаў (войты, бурмістры і інш.) укладаюць для кожнай маясцовасьці спісак выбаршчыкаў у 3 экзэмплярах.

Прэзэс акр. выб. кам. паведамляець начальніка гміны аб складзе адпаведных абвадовых выбарных камісіяў і падаець аддзел да агульнага ведама.

20 верасьня. Начальнік гміны перасылаець тры экзэмпляры сьпіску выбаршчыкаў старшыні абвадовай выбарнай камісіі.

## Грамадзяне!

*Чытайце і пашырайце нашую газэту і памятайце, што амаль поўная адсутнасьць беларускіх часапісаў і газэтаў тлумачыцца нічым іншым, як нашаю шкоднаю прывычкаю — вельмі неакуратна высылаць грошы за газэту. Калі хочаце атрымліваць рэгулярна газэту, якая зьяўляецца пакуль што амаль адзінаю на нашых землях, — выконвайце свой грамадзкі абавязак чытача.*

*Газэта наша маець шмат недахопаў але ў большай частцы яны тлумачацца адсутнасьцю матэр'яльных сродкаў.*

*У меру таго, як будуць больш рэгулярна наплываць грошы ад падпішчыкаў—газэта зможа павялічыць свой фармат і выходзіць разы 2-3 на тыдзень, а можа й штодня.*

*Пакуль што, дзякуючы павялічэньню ліку падпішчыкаў— мы маем цяпер магчымасьць рэгулярна выдаваць газэту 1 раз на тыдзень.*

*Памятайце, грамадзяне, што адчуваецца вялікая патрэба ў белар. часопісі і што гэтую патрэбу вы можаце задаволіць толькі сваімі ўласнымі высілкамі.*

**Кожны сьвядомы чытач нашае газэты з вёскі павінен дбаць аб тым, каб вясковае жыцьцё адбівалася на старонках газэты—Хай іншыя ведаюць аб нашых патрэбах.**

**Пішыце і прысылайце карэспандэнцыі.**

ца на Ягельлёнскай вул. 3, кв. 5. Дэректарам Сэмінарыі зацьверджаны гр. Р. Астроўскі. Як даведываемся, ужо пададзена ў Сэмінарыю звыш 160 заяваў. Гэта, пры агранічаным ліку кандыдатаў, найлепшы доказ патрэбы беларускай вучыцельскай сэмінарыі.

✕ **Пачатак заняткаў у Віленскай Беларўскай Гімназіі.** У выніку ўступных экзаменаў, якія трывалі ад 30 да 2 ўключна, у Беларускую Гімназію ў Вільні ўлілося шмат новых сілаў. Лік вучняў у Гімназіі перавышае 200. Пасьля пэўнае дэпрэсіі, выкліканае варожымі нашаму народу сіламі, Гімназія ізноў мацнее й становіцца вогнішчам асьветы ў Зах. Беларусі. 3-га верасьня пачаліся заняткі ў Гімназіі. Перад пачаткам заняткаў, новы дырэктар гімназіі гр. А. Міхалевіч у прамове да вучняў падкрэсьліў важнасьць для беларускага народу роднае школы й выразіў жаль з прычыны адыходу былога дырэктара Гімназіі гр. Р. Астроўскага. Вучні дружна пракрычалі: Хай Жыве! Гр. Р. Астроўскі разьвітаўся з вучнямі, нагадваючы ім старанна й пільна вучыцца.

✕ **Новая кніжка.** Выйшла з друку новая кніга пад назовам „Божая Ліра". „Божая Ліра" зьяўляецца зборнікам хрысьціянскіх песень, мае 206 стр., выдана надзвычайна добра. Шмат песень перакладзена з польскае мовы на беларускую, але шмат таксама й беларускіх народных. Зьмест песьняў дапаўняюць ноты. Выданьнем „Боже Ліры" займаўся гр. Г. Леўковіч з даручэньня Амэрыканскае Місіі Мэтадыстаў.

Аб матывах песень пакідаем слова нашым кампазытарам.

# Усячына.

### Самалёты на абслугах земляробства.

Канадыйскія часопісі пішуць, што тамашнія фэрмэры пачынаюць сеяць збожжа пры помачы самалётаў. Робяць гэта дзеля таго, бо ня маюць адпаведнай колькасьці работнікаў, каб у кароткі час засеяць вялікія прасторы поля. Якія будуць вынікі з такой сяўбы—пакажуць бліжэйшыя часы.

### „Вежа вятроў".

Адзін інжынэр канчаець будову г. зв. вежы вятроў. Гэта будзе асобае сааружэньне, якое будзе лавіць усе патрэбныя павевы паветра. Пры іх помачы будуць абяртацца колы электрычных гэнэратараў і гэтым спосабам будзе вытварацца энэргія зусім задарма. Праэкт гэты зьяўляецца аднэй з найнавейшых спробаў замяніць вугаль-паветрам, над чым цяпер працуець шмат вучоных.

### У добе розных рэкордаў.

У аднэй бэрлінскай кавярні аркестр, які складаўся з 4 асоб—пабіў рэкорд, граючы без перарыву аж 110 гадзін!

### Насьледкі сьпекі ў Амэрыцы.

Ад таго часу, як існуюць мэтэаролёгічныя станцыі, не заўважалася ў Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі такой сьпекі, якая была сёлета. Насьледкі гэтай сьпекі—вялікія.

Напр. у адным толькі Чыкаго за адзін дзень памёрла ад гарачыні 60 асоб. Вылічана, што колькасьць асоб, якія ў гэтым годзе памерлі ад гарачыні даходзіць у Зл. Шт. Амэрыкі да 100 асоб.

Як відаць, нешта і ў прыродзе ня ўсё ў парадку.

### Бура над паўночнаю Францыяю.

З Парыжу паведамляюць, што паўночную Францыю наведапа страшэнная бура, якая прынясла вялікія шкоды. У дзе-якіх мяйсцох бура знішчыла 50 працэнтаў ураджаяў, ёсьць ахвяры і ў людзях. Шмат рыбацкіх лодак затапілася ў моры.

### Самалётам праз Атлантык.

1 верасьняя г. г. два француекія лётчыкі Кост і Беллёнт выляцелі на аэрапляне з Парыжу і скіраваліся ў Амэрыку. Праз 37 гадзін і 19 мінут лётчыкі шчасьліва апусьціліся каля Нью-Іорку, праляцеўшы 6000 кілёмэтраў.



# Лёс савецкай „пяцілеткі".

30 верасьня г. г. закончыўся другі год савецкай „пяцілеткі". Паводле савецкай прэсы, прамысловая прадукцыя павялічылася агулам на 25% у параўнаньні з прошлым годам.

Трэба зазначыць, аднак, што павялічэньне гэтае толькі колькаснае; фактычна-ж якасьць амаль усіх тавараў значна пагоршылася, аб чым увесь час пішуць савецкія газэты й часопісі.

У некаторых галінах прамысловасьці ня толькі пагоршылася якасьць тавараў, але ўпала і іх колькасьць, дзячуючы адсутнасьці сыр'я і іншым прычынам. Гэта наглядаецца, напр. у вугальнай прамысловасьці. У адным толькі Данецкім вугальным басэйне выпрадукована вугля на 2½ міл. тонаў менш, чым гэта было прадугледжана ў пляне. Наагул, прадукцыя вугаля праз увесь апошні час стала памяншаецца.

Вугальная прамысловасьць, як ведама, маець аграмаднае значэньне для разьвіцьця ўсёй прамысловасьці наагул і занапад яе вельмі ўёмна адаб'ецца на ўсёй эканоміцы СССР. Паменшылася і прадукцыя машынаў. Так напр. Ленінградзкі „Красный Путыловец" выпусьціў замест плянаваных 2100 трактараў—толькі 661.

Савецкая ўлада тлумачыць у многіх выпадках гэтыя ўсе зьявішчы слабасьцю працоўнае дысцыпліны сярод работнікаў і адсутнасьцю кваліфікаваных сілаў. З другога боку, вялікую ролю адыгрываець у гэтым і цякучасьць рабочых кадраў, якія дзякуючы вельмі дрэнным апровізацыйным умовам у гарадох, ня могуць затрымоўвацца на даўжэйшы час.

Узяўшы пад увагу як гэта ўсе, так і цэлы рад іншых фактараў, якія ўёмна адбіваюцца на эканамічным жыцьці Саветаў, — над лёсам „пяцілеткі" трэба паставіць вялікі знак запытаньня.









Рэдактар-Выдавец: **М. Сіняўскі.**

Друкарня Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22.